# ЧАМУ НЕ ХАПАЕ



ЎРАЧОЎ У БАЛЬНІЦАХ

СТАР. 4-5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

# 8 САКАВІКА – "ДРАМА"

ДЛЯ НАШЫХ МУЖЧЫН




СТАР. 6, 8

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

8.03.12-14.03.12 г.


# "НОВЫ" ПУЦІН – СТАРЫЯ ПРАБЛЕМЫ

На прэзідэнцкіх выбарах у Расіі перамог Уладзімір Пуцін. Ужо ў першым туры. Прынамсі, так сцвярджае Цэнтрвыбаркам.




*Якія будуць заўтра твае межы, Беларусь?*

## НЕЗАЛЕЖНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ СУПРАЦЬ ЦЭНТРВЫБАРКАМУ

Афіцыйна Пуцін набраў каля 64%. Не лукашэнкаўскі, канешне, вынік, аднак таксама дастаткова "элегантная перамога".

Калі Ленін – "вечна жывы", то ягоны паслядоўнік Генадзь Зюганаў – вечна другі. Ён мае блізу 17%.

Пачэснае трэцяе месца – у Міхаіла Прохарава. Згодна са звесткамі ЦВК, мільярдэр меў пасля апрацоўкі 99% бюллетэняў 7,77% галасоў.

Уладзіміру Жырыноўскаму час сыходзіць на заслужаны адпачынак. Гэтым разам кіраўнік ЛДПР толькі чацьверты з 6%.

Ад былога кіраўніка Рады Федэрацыі Сяргея Міронава нічога сур'ёзнага і не чакалі. Ён апынуўся апошнім, набраўшы менш за 4%.

Яшчэ раз падкрэслю, што гэта дадзеныя Цэнтрвыбаркаму. Незалежныя назіральнікі падаюць іншыя звесткі. Паводле праекту SMS-ЦИК, Пуцін балансуе каля адзнакі ў 50% галасоў, у Зюганава – 19%, у Прохарава – 17% (!), у Жырыноўскага – 6%, у Міронава – 5%.

> "Насамрэч, зыход галасавання быў запраграмаваны яшчэ на стадыі рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты".

Такім чынам, расклад па месцах у любым разе аднолькавы. Аднак пакуль атрымліваецца, калі даверашь незалежным назіральнікам, то Пуціну прыпісалі прыкладна 13% галасоў, адабраных у іншых кандыдатаў. Больш за ўсё пацярпеў Прохараў, якога пазбавілі амаль 10%.

## І ФАРМАЛЬНЫ ЎДЗЕЛ МІРОНАВА

Але гэта толькі частка праблемы, бо ўсё лічаць тыя бюлетэні, што апынуліся ў скрынях. А тады патрапіла і шмат чаго залішняга. Звесткі пра ўкіды і іншыя фальсіфікацыі ўжо патрапілі ў расійскія і замежныя СМІ. Аднак Цэнтрвыбаркам прадказальна праігнаруе большасць з іх, і можна толькі ўзорна адмяніць вынікі галасавання на асобных участках.

Насамрэч, зыход галасавання быў запраграмаваны яшчэ на стадыі рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты.

Удзел Міронава быў чыста фармальным.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## ЗАМЕЖНЫ ДОЎГ ДАСЯГНУЎ 34 МІЛЬЯРДЫ ДОЛАРАЎ

Кожны беларус цяпер вінен 3595 долараў.

Як паведамілі БелаПАНу ў Нацбанку, валавы замежны доўг Беларусі за 2011 год вырас на 5,6 млрд долараў, або на 20%, і на 1 студзеня 2012 года склаў 34 млрд 28 млн долараў. Пра гэта паведамілі ў Нацбанку.

Цяпер кожны беларус, з немаўлятамі ўключна, вінен 3595 долараў. Год таму на кожным з нас вісела ўсяго 2995 долараў.

На выплаты па замежным доўгу за мінулы год у Беларусі пайшло 6,3 мільярда долараў, або амаль восьмая частка ад валавога ўнутранага прадукту.

У тым ліку замежны доўг органаў дзяржаўнага кіравання за 2011 год вырас на 22,8% да 12 млрд 351 млн.

Знешні доўг органаў грашова-крэдытнага рэгулявання склаў 1 млрд 529,7 млн, знізіўшыся на 17,5%. Завінавачанасць камерцыйных банкаў вырасла на 5,6% — да 6 млрд 77,4 млн долараў ЗША.

Знешні доўг іншых сектараў эканомікі склаў 13 млрд 64,3 млн долараў, павялічыўшыся за год на 31,8%. Прамыя інвестыцыі (міжфірменнае крэдытаванне) выраслі на 21,8% — да 1 млрд 6,0 млн долараў.

Валавы замежны доўг уяўляе сабой нявыплачаную суму фактычных наяўных і неабумоўленых абавязацельстваў.

**АЛЯКСЕЙ АРЭШКА**

# ЯКОЕ ГІСТАРЫЧНАЕ СВЯТА МОЖА АБ'ЯДНАЦЬ БЕЛАРУСАЎ?

Нядаўна прайшло 23 лютага — "свята ўсіх сапраўдных беларускіх мужчын". Неўзабаве 8 сакавіка — бум шалёнства тых жа самых мужчын, якія будуць душыцца і ўжо душацца за абавязковымі падарункамі для "сапраўдных жанчын".
А што іх можа аб'яднаць? 7 лістапада? 3 ліпеня? 25 сакавіка? На гэтыя пытанні адказваюць нашы суразмоўцы.

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ, ГІСТОРЫК І ПІСЬМЕННІК:**
### "НА СЁННЯ ТАКОГА СВЯТА НЕ БАЧУ".

— У нас цяпер, па гамбургскім рахунку, дзве Беларусі. У кожнай свае каштоўнасці, свае сімвалы, свае святы і свае ўяўленні пра мінулае і будучыню. І мне здаецца, што расколіна паміж гэтымі дзвюма краінамі робіцца ўсё большай. Таму такога свята, якое магло б іх аб'яднаць, я не бачу. На маю думку, для таго, каб з'явілася такое свята, трэба, каб з'явілася свая дзяржава. Тая, пра якую мы толькі марым. І каб гэтая дзяржава растлумачыла ўсім, што такое 25 сакавіка, Грунвальдская, Аршанская перамогі і паўстанне Каліноўскага, 150-годдзе якога мы будзем адзначаць праз нейкі год, з чаго, па-сутнасці, пачалося нараджэнне беларускай нацыі. А на сёння я такога свята не бачу.

**АНТОН АСТАПОВІЧ, СТАРШЫНЯ ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ АРХІТЭКТУРЫ:**
### "МАГЧЫМА, 27 ЛІПЕНЯ".

— З улікам неаднастайнасці нашай грамадска-сацыяльнай структуры трэба досыць доўга думаць над тым, якое свята можа нас аб'яднаць. 25 сакавіка на гэтую ролю адназначна не падыходзіць. Улічваючы сучасны інфармацыйны стан грамадства, 80 працэнтаў не тое што не ўспрымаюць, яны нават нармальна не інфармаваны пра гэтую падзею. Дарэчы, тое ж самае і з 8 верасня, тая ж вельмі спрэчная сітуацыя. Гэтыя даты ўспрымаюцца толькі невялікай часткай грамадства, адукаванай, са сфарміраванымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі. Магчыма, варта залазіць у вельмі далёкую сівізну, каб знайсці нешта аб'ядноўчае. Напрыклад, першыя згадкі пра Літву і летапіс або каранацыю Міндоўга. Што-небудзь такое. На дадзены момант я нават губляюся, што адказаць. Трэба вельмі шмат працаваць, каб нейкая дата стала аб'ядноўчай і ўвайшла ў свядомасць кожнага грамадзяніна. Мо лепш за ўсё на гэтую ролю падыходзіць 27 ліпеня — дзень прыняцця Дэкларацыі ад суверэнітэце.

**НІНА СТУЖЫНСКАЯ, ГІСТОРЫК:**
### "ГЕРОЯЎ РОБЯЦЬ НЕ ГІСТОРЫКІ, А ЛЮДЗІ".

— На жаль, няма. У нас увогуле як быццам няма такіх пытанняў, як агульнае свята, нацыянальны пантэон герояў. Гэта бачна па тым раздраі, які пануе ў галовах людзей, дзе і каланіяльныя міфы прысутнічаюць, і савецкія штампы і стэрэатыпы. І ўсё гэта прыводзіць да таго, што няма галерэі герояў Беларусі, прызнаных усім грамадствам. За рэдкім выключэннем. Мо фігур дзесяць набярэцца. Няма свят, няма ганаровых могілак нацыянальнага пантэона. І гэта ўплывае на думкі нашых людзей. А што тычыцца свят, то, канечне, пры іншым раскладзе такімі маглі б быць Дзень незалежнасці Беларусі, Дзень абвяшчэння БНР і, канечне, Дзень герояў Беларусі, Дзень Слуцкага паўстання. Гэтыя людзі, якія зрабілі подзвіг для нацыі, для дзяржавы, заслужылі, каб іх памяталі і выпівалі чарку за іх. На жаль, герояў робяць не навукоўцы. Навукоўцы могуць здабыць шыкоўную інфармацыю пра падзею, асэнсаваць гэтую падзею на карысць радзімы, могуць прапанаваць грамадству тых ці іншых персон, "насяліць" гісторыю жывымі людзьмі. Але герояў робяць людзі, грамадства. Вельмі хацелася б, каб адбор герояў ажыццяўляўся з пункта гледжання ўнёску таго ці іншага чалавека ў прагрэс Беларусі, палітычны, эканамічны, дзяржаўны.

**СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ, МАСТАЦТВАЗНАЎЦА:**
### "ТОЛЬКІ ДЗЕНЬ ВОЛІ".

— Камуністычныя святы — гэта нонсенс. Слуцкі збройны чын ці Дзень вайсковай славы — яны ўсё ж такі двухсэнсоўныя, відавочна канфліктныя. Не выпадае называць і 3 ліпеня, калі быў вызвалены Мінск, але палова краіны знаходзілася пад акупацыяй. А вось 25 сакавіка Рада БНР, якая прадстаўляла ўсю Беларусь геаграфічна, саслоўна і нават этнічна, прамаўляла ад імя ўсёй Беларусі. У апошнія гады мы бачым, што нават газета "Советская Белоруссия" праводзіла круглыя сталы з гэтай нагоды і вельмі прыхільна каментавала ідэалы БНР. Яны ніяк не звязаны з калабарацыяй і інспірацыяй звонку. І гэта сапраўды знак самавыражэння беларускага народа. Калі б не гэты акт, уся астатняя гісторыя і сам факт існавання Беларусі як незалежнай дзяржавы былі б сёння немагчымы. Гэтае свята даўно адзначаецца тысячамі людзей па ўсёй краіне, а ў апошнія гады нават дзяржаўны афіцыёз ухвальна ацэньваў гэтую падзею, бо менавіта 25 сакавіка ёсць вытокам беларускай дзяржаўнасці, у тым ліку той, якую мы зараз маем.

**МАРЫЯ ГРАДАВА, СТУДЭНТКА:**
### "25 САКАВІКА".

— Той дзень, калі не пад прымусам, не за грошы, а па ўласнай волі людзі выходзяць на вуліцу. Найбольшую колькасць людзей збірае 25 сакавіка. Прычым адзначаюць яго даўно не толькі на вуліцах і маніфестацыях, але і дома за сталамі, у кафэ. Прычым не толькі сапраўдныя нацыяналісты, але і людзі, якія ніколі па-беларуску не гаварылі. А тыя, хто зусім не ўспрымае гэты дзень... Дык ці можна іх аднесці да беларусаў?




*Наўрад ці наша перамога пад Оршай сёння здольная аб'яднаць нацыю*

# "НОВЫ" ПУЦІН – СТАРЫЯ ПРАБЛЕМЫ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Зюганаў і Жырыноўскі адыгрывалі замацаваныя за імі шмат гадоў ролі. А ўявіць сабе, што сучаснае расійскае грамадзтва абярэ прэзідэнтам "буржуя" Прохарава, мог толькі вельмі далёкі ад рэаліяў чалавек. Атрымлівалася, што перамога Пуціна непазбежная. Як і прадугледжваў крамлёўскі сцэнар.

## ЦІСК НА МІНСК НЕПАЗБЕЖНЫ

Зрэшты, нас больш цікавіць, ці адбудуцца цяпер нейкія змены ў расійска-беларускіх дачыненнях. Адносіны паміж Уладзімірам Пуціным і Аляксандрам Лукашэнкам досыць неадназначныя. Праўда, нейкі час таму публічная пікіроўка паміж імі скончылася. Больш за тое, расійскі кіраўнік пачаў даволі паблажліва казаць пра беларускага калегу. Той таксама акрыяў і не марудзіў з кампліментамі ў адказ.

Да таго ж, на гэты год Беларусь атрымала танныя газ і нафту. Істотнае павелічэнне расійскай энергетычнай субсідыі дазволіла часткова стабілізаваць эканамічную сітуацыю ў нашай краіне.

Шэраг экспертаў лічаць, што пасля расійскіх выбараў "падарункі" скончацца. Наадварот, Масква выставіць рахунак, патрабуючы прыватызацыі на сваю карысць прывабных беларускіх прадпрыемстваў. Прагназуецца, што праз гэта Пуцін і Лукашэнка ізноў пачнуць сварыцца.

Такое развіццё падзеяў цалкам магчымае, але не варта перабольшваць ступень верагоднага канфлікту. Крэмль мае звычку да апошняга чапляцца за розных адыёзных асобаў, як гэта зараз адбываецца з сірыйскім дыктатарам Башарам Асадам, а раней з ягонымі аднадумцамі: Слабаданам Мілошавічам, Садамам Хусэйнам, Муамарам Кадафі ды іншымі.

Акрамя таго, Пуцін зацікаўлены ў рэалізацыі свайго асабістага праекту – так званага Еўразійскага саюза. Да гэтай палітычнай гульні актыўна далучылася цяперашняе кіраўніцтва Беларусі. Гэта таксама спрыяе паляпшэнню стасункаў паміж бакамі.

Таму асцярожна цэнячы на Лукашэнку ў асобных пытаннях, Масква будзе яго рашуча падтрымліваць у іншых.

Чаго-чаго, а "экспарту дэмакратыі" з Усходу не будзе.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

### ПЕСІМІСТЫЧНЫ ПРАГНОЗ

Эксперт уплывовага польскага аналітычнага Цэнтра міжнародных адносін Войцех Бародзіч-Смалінскі апублікаваў артыкул на new.org.pl з аналізам сітуацыі ў Беларусі.

Пасля ўваходжання ў Мытны саюз і Адзіную эканамічную прастору Беларусь развіталася з часткай суверэнітэту. І гэтыя змены носяць незваротны характар, мяркуе Бародзіч-Смалінскі. Крок за крокам Расія ўзмацніць кантроль.

Еўрасаюзу разумней было б заплюшчыць вочы на далучэнне Беларусі Расіяй, — так можна коратка сфармуляваць правакатыўную думку Бародзіча-Смалінскага. Двухбаковыя адносіны Беларусі і Еўрасаюзу небяспечна наблізіліся да крытычнага пункту, за якім можа адбыцца поўная страта ўплыву Брусэля на Беларусь. Праблемы з увядзеннем новых санкцыяў да Беларусі (казус з вета Славеніі) паказалі, што Беларусь добра засвоіла ранейшыя ўрокі і навучыліся весці дыпламатыю паводле расійскіх правілаў, то бок працаваць ціха, але настойліва. Яшчэ адной праблемай з'яўляецца фактычная адсутнасць сур'ёзных прапановаў з Брусэля для краіны, якая не выяўляе імкнення да інтэграцыі або аб'яднання са структурамі ЕС, але штораз ахвотней збліжаецца з Расіяй.

# СТАРШЫНЯ БСЖ: "ЧОРНЫЯ СПІСЫ" СКЛАДАЎ БАЖ

**Пра гэта Анатоль Лемяшонак заявіў у праграме "Клуб рэдактараў", якая выйшла ў эфір канала "Беларусь 1" увечары 4 сакавіка, паведамляе прэс-служба ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".**

Анатоль Лемяшонак, старшыня ГА "Беларускі саюз журналістаў", галоўны рэдактар газеты Савета Міністраў "Рэспубліка": *"Чорныя спісы складаюць нашы апазіцыянеры. Разумееце? Калі складалі спіс журналістаў, якіх зрабілі неўязнымі ў Еўропу, вы думаеце, у мяне як у старшыні БСЖ і рэдактара ўрадавай газеты ёсць хоць які сумнеў, што гэты спіс складаў БАЖ? Канешне, яны! Таму што нават тая ж Дуньня Міятавіч наўрад ці ведае, хто такі Лемяшонак. А Жанна Літвіна ведае, ведаюць яе намеснікі…".*

*"Груба кажучы, яна жыве, у яе на лесвічнай пляцоўцы сусед. Ён позна музыку ўключаў, яна яго — раз, і ў чорныя спісы… Не падумаўшы, таму што перашкаджаў "нашаму" чалавеку, якога фінансуюць",* — прадоўжыў думку калегі Генадзь Давыдзька, старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і вядоўца "Клуба рэдактараў".

*"Я яшчэ раз даводжу да ведама Анатоля Лемяшонка і астатніх удзельнікаў перадачы "Клуб рэдактараў", што ні са мной, ні з намеснікамі старшыні БАЖ ніхто не ўзгадняў спісы перад увядзеннем візавых санкцый год назад,* — пракаментавала гэтыя выказванні прэс-службе БАЖ **Жанна Літвіна**. — *Хаця, чаму было прынята такое рашэнне, я магу зразумець — гэта быў адказ на грубую прапаганду і "ідэалагічнае забеспячэнне" рэпрэсій у дачыненні да апанентаў улады пасля прэзідэнцкіх выбараў".*

*"Дзіўна чуць такія неабгрунтаваныя абвінавачанні з вуснаў старшыні Беларускага саюза журналістаў, з якім БАЖ пад патранажам шведскага інстытута павышэння кваліфікацыі журналістаў FOJO з мінулага года рэалізуе сумесную праграму, што тычыцца журналісцкай этыкі. Нам падавалася, што менавіта такія ініцыятывы дапамогуць нашым калегам кіравацца найперш фактамі, а не выдумкамі".*

*"Удзельнікі гэтай тэлепраграмы высвятлялі, хто складае "чорныя спісы" дзяржаўных чыноўнікаў. А я б параіла ім у наступны раз пашукаць адказу на такое пытанне: у якой яшчэ краіне дзяржаўнае тэлебачанне — "рупар дзяржаўнай палітыкі" — можа дазволіць сабе такі цыкл абражальных "ідэалагічных блакбастараў" супраць замежных амбасад? Якога яшчэ стаўлення вартыя іх стваральнікі?..*




*Сёння для мяне ўсё больш зразумелымі робіцца матывы з'яўлення хамскага фільма "БАШ на БАЖ" — яго можна ўспрымаць як помсту за выдуманы ўдзел БАЖ у складанні "чорных спісаў",* — зазначыла Жанна Літвіна.

### НАГАДАЕМ

Спіс неўязных у краіны Еўразвяза грамадзян Беларусі быў зацверджаны Саветам Міністраў ЕС 31 студзеня 2011 г. У пераліку фігуравалі прозвішчы шэрагу журналістаў дзяржаўных СМІ і кіраўнікоў Мініфармацыі. Тады прэс-служба ГА "БАЖ" апытвала кіраўнікоў ГА "БАЖ" і сваіх калег наконт стаўлення да такіх захадаў, і іх меркаванні па гэтым пытанні падзяліліся.

# ЧАМУ Ў БЕЛАРУСКІХ БАЛЬНІЦАХ І

"Хранічна хворая" ці "практычна здаровая" — як вы мяркуеце, які дыягназ будзе правільным для беларускай медыцыны? Скласці першасны анамнез галіны паспрабавала "Тут і цяпер".

## КАБ ТЫ ЖЫЎ НА АДНУ ЗАРПЛАТУ

Летась практычна ўсе беларусы былі вымушаны мацней падпярэзацца і пералічыць заробкі па новых курсах. Адно толькі айчынная медыцына прыдбала "новы імпульс для развіцця", а "сістэма аховы здароўя засталася кіруемай, цэласнай і стабільнай". Прынамсі, такія аптымістычныя заявы прагучалі на выніковай калегіі Міністэрства аховы здароўя.

Але з вышыні гэтай залатой гары адкрываецца і іншая карціна: паводле звестак упраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, на рынку працы Беларусі адчуваецца востры дэфіцыт медыкаў. На 13 беспрацоўных гарадскіх урачоў у дзяржслужбе занятасці ёсць ажно 948 вакансій, на 73 медсястры — 1046; на вёсцы адзначаецца патрэба ў 44 урачах і 79 медыцынскіх сёстрах пры 2 і 17 беспрацоўных адпаведна.

"Зрэшты, можна развіць ідэю Анатоля Тозіка і пайсці далей — зрабіць платнымі выклік урача дамоў, выклік "хуткай", медпатранаж немаўлят…"

Здавалася б, пры існуючым багацці выбару вакансій працуй не хачу, толькі хто ж захоча? Што такое для кваліфікаванага акушэра-гінеколага 1,5 мільёна рублёў (у Мінску!), для тэрапеўта — 1,8? А 2,56 мільёна рублёў (паводле Белстата, гэта сярэдні заробак у сферы аховы здароўя ў студзені 2012 года) далёка не кожнаму кваліфікаванаму ўрачу перападаюць. Некваліфікаваныя ж нам, пацыентам, і задарма не патрэбны.

"Як маці і бабуля я цудоўна разумею маладых урачоў, — уздыхае **пенсіянерка Раіса Копаць з Нясвіжа**. — Ад нас яны ўцякаюць адразу пасля размеркавання, бо заробак невялікі, а жылля няма. Але як пацыентка такім станам спраў абурана, бо вузкіх спецыялістаў пастаянна не хапае, а з тых урачоў, што ёсць, некаторых трэба гнаць у шыю. Прыкладам, ЛОР у нас чамусьці не прымае хворых "з горлам" — усіх заварочвае да тэрапеўтаў, а тыя мусяць або самі лячыць, або выпісваць паперку зноў да яго, маўляў, выпадак складаны. Ці дэрматолаг наша: паскардзілася ёй, што на нагах нейкія плямы з'явіліся і чэшуцца, дык ледзь позірк кінула і адразу: "У вас трафічная язва!" Я ледзь прытомнасць не страціла. Добра, што ў рэгістратуры параілі яшчэ да хірурга звярнуцца. Той і пагледзеў, і памацаў нагу — не грэбаваў — дый спытаўся: "Вы, напэўна, нядаўна калготкі новыя набывалі? На рынку? То яны няякасныя. Выкідвайце", — і кампрэс прапісаў, які дапамог. Лепш бы нам некалькі такіх хірургаў, хоць бы і пенсіённага ўжо ўзросту".

## РЭЦЭПТ ЁСЦЬ, ЭФЕКТУ НЯМА

Эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якія правялі ў 2009 годзе маніторынг сітуацыі ў Беларусі, звярнулі ўвагу функцыянераў ад медыцыны на нерацыянальнае размеркаванне кадраў. У нас толькі 10% урачоў заняты ў паліклініках, дзе пры дастатко-




*І клінікамі з бальніцамі незадаволеныя, і колькасцю ўрачоў у іх*

ва нізкім заробку адзначаюцца найбольшы паток пацыентаў і найвялікшая нагрузка. У іншых краінах у першасным звяне працуюць 50% урачоў. Чым іх утрымліваюць? Найперш, зразумела, узроўнем заробку.

Але на вярху, відаць, на гэты конт свой погляд: праблему дэфіцыту кадраў плануецца вырашыць павелічэннем набору ў медыцынскія ВНУ і ССНУ (ужо ў 2013 годзе адбудуцца выпускі гэтых "пашыраных" набораў), а ў перспектыве — павелічэннем тэрміну абавязковай адпрацоўкі па размеркаванне: да пяці гадоў — для мэтавікаў і да трох гадоў — для ўсіх астатніх.

"У нашай дзіцячай паліклініцы на ўчастку амаль год не было медсястры — сышла ў камерцыйны медцэнтр, — дзеліцца маці дваіх дзяцей **мінчанка Наталля Васілеўская**. — Хірурга няма дагэтуль — трэба ехаць у паліклініку суседняга мікрараёна, прычым без накіравання, па жывой чарзе. Але яна таксама перапоўнена, і ў чарзе даводзіцца сядзець па тры гадзіны, без гарантыі, што трапіш на прыём. Я разумею, што ва ўрачоў перагрузка і ім не надта многа плацяць, але якім бокам у гэтым вінаватыя мае дзеці?!"

## МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ ПАПЯРЭДЖВАЕ

Нямала шуму нарабіла ідэя віцэ-прэм'ера Анатоля Тозіка ўвесці плату — 5 тысяч рублёў — за наведванне паліклінікі. Аказваецца, у Беларусі ў сярэднім на аднаго жыхара прыпадае больш як 13 наведванняў паліклінік у год, а ў суседніх краінах "зусім іншая карціна — 6 або 6,5 наведвання". Гэтыя наведвальнікі-шкоднікі ствараюць бясконцыя чэргі і перашкаджаюць урачам працаваць, а хворым лячыцца. Таму "кагосьці нават такая сімвалічная плата, магчыма, прымусіць задумацца: а ці сапраўды трэба звяртацца ў паліклініку?".

**ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ**

**Штогод у галіне аховы здароўя толькі па натуральных прычынах (пенсія, інваліднасць ці смерць) меншае на 800 спецыялістаў, а звальняюцца да 3000 чалавек. З тых, хто пакідае працу па ўласным жаданні, дзве трэці — ва ўзросце да 40 гадоў, пераважна незадаволеныя нізкімі заробкамі (40%) і немагчымасцю самарэалізацыі ці ўдасканальвання (6%).**

# ПАЛІКЛІНІКАХ НЕ ХАПАЕ ЎРАЧОЎ

Пакінем па-за дужкамі бурнае грамадскае абмеркаванне таго, наколькі здаровы сам віцэ-прэм’ер, што яго наведваюць такія радыкальныя думкі. Заўважым толькі, што меркаванні пацыентаў падзяліліся дыяметральна: ад гарачага “за” (надакучылі, маўляў, бабулькі-пенсіянеркі, якія прыходзяць у паліклініку, як у клуб па інтарэсах, з-за чаго працуючым хворым не прабіцца) да катэгарычнага “супраць” (у людзей сталага веку ёсць як мінімум адна-дзве хранічныя хваробы, з якімі не па добрай волі пацыенты цягаюцца па паліклініках, а ад “эканамічных абмежаванняў”) нямоглых старых можна дайсці і да метадаў старажытнай Спарты…

Урачы ж, як ні дзіўна, салідарна называюць агучаную ідэю “рэдкім блюзнерствам” і, мякка кажучы, не ўхваляюць. “Па-першае, гэта толькі павялічыць нагрузку на ўрачоў, — на ўмовах ананімнасці патлумачыла нам **адна са сталічных тэрапеўтаў**, — бо “за свае грошы” некаторыя катэгорыі наведвальнікаў выцягнуць з цябе душу. Па-другое, сістэма аказання платных паслуг у дзяржпаліклініках у асноўным такая нягеглая, што замест знікнення чэргаў паўстане яшчэ адна — у касу ці бухгалтэрыю на аплату паслугі і завярэнне квітанцыі. Па-трэцяе, непасрэдна паліклініцы ад платных паслуг перападае ў лепшым выпадку 20%, і то гэтыя сродкі ў асноўным ідуць на прэміі галоўнаму ўрачу і загадчыкам аддзяленняў. Нарэшце, уяўляеце, колькі людзей, для таго каб не ісці ў “платную” паліклініку, бясплатна будуць выклікаць урача дамоў? Я саб’ю не толькі дзве пары абутку за сезон, але і ногі да кален”.

Зрэшты, можна развіць ідэю Анатоля Тозіка і пайсці далей — зрабіць платнымі выклік урача дамоў, выклік “хуткай”, медпатранаж немаўлят… Тым больш што сярэдні кошт большасці гэтых паслуг ужо вядомы: як паведамляе “Медыцынскі веснік”, адзін дзень у бальніцы каштуе 231,1 тысячы рублёў, 1 наведванне ўрача — 21,3 тысячы, 1 выклік “хуткай” — 158,6 тысячы рублёў.

Але як быць з артыкулам 5 Закона РБ “Аб ахове здароўя”, паводле якога грамадзяне Беларусі маюць права на ахову здароўя, якае забяспечваецца ў тым ліку “прадастаўленнем насельніцтву даступнай медыцынскай дапамогі, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных арганізацыях аховы здароўя”? І, на хвілінку, з Канстытуцыяй?

## ДЛЯ ПАРАЎНАННЯ

“Талончыкі? Я ўжо забылася, што гэта такое, — прызнаецца экс-беларуска **Алена Юбер, якая цяпер жыве ў Лілі** (Францыя). — Звычайна за 1-3 дні запісваешся без пытанняў: тэлефануеш сакратару, прызначаеш час і наперад. Даводзіцца часам пачакаць… ну, я чакала максімум паўгадзіны. А жывая чарга — толькі ў “хуткай”. Такса на прыём тэрапеўта — 23 еўра, але плаціш частку або ўсё аўтаматычна пакрываецца страхоўкай. Яна вылічваецца з заробку або плаціць дзяржава: скажам, калі на дадзены момант ты беспрацоўны, але цягам гэтага года яшчэ працаваў для ўрачоў. І нават калі жывеш на дапамогу па беспрацоўі, ідзе агульная страхоўка, проста яна пакрывае толькі 70 працэнтаў усіх выдаткаў. Прыём аналізаў арганізаваны таксама выдатна: здаеш у лабараторыі, дзе табе зручна, і кроў прымаюць не з 7 да 9 гадзін, а ўвесь дзень. Потым лабараторыя дасылае вынікі на пошту табе і ўрачу; калі ўсё нармальна, урач тэлефануе і паведамляе пра гэта, калі нешта не ў парадку, то запрашае цябе на чарговы прыём ці накіроўвае да вузкага спецыяліста. З “вузкіх”, дарэчы, я тут не пасябравала толькі з “жаночымі” ўрачамі (да іх трэба за паўгода на прыём запісвацца) і стаматолагамі — мая доктар у Мінску ў прыватным кабінеце лякуе лепш. Зато бальніцы ў параўнанні з нашымі неба і зямля: усе палаты асобныя з туалетам і душам, калі балячка пагражае жыццю, то страхоўка яе на 100 працэнтаў пакрывае, і вакол хворага ўсе бегаюць — майго свёкра на верталёце перавозілі ў іншы горад, каб аперацыю на сэрцы рабіць”.

## БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ, ЖЫВІЦЕ БАГАТА

— Уводзіць цалкам платную медыцыну? Гэта далёка не так проста, і рабіць гэта трэба паступова і вельмі прадумана, — перакананы **Міхаіл Чыгір, былы прэм’ер міністр (1994—1996) Беларусі**. — Страхавую медыцыну трэба было распрацоўваць значна раней, а цяпер, калі не павялічыць зарплаты ўрачам, праблемы ў сферы аховы здароўя будуць толькі паглыбляцца. Параўнайце статыстыку па заробках у Расіі, Польшчы — мы істотна адстаём. Не дзіўна, што з краіны з’язджаюць нават кваліфікаваныя сантэхнікі, не тое што ўрачы.

> “На 13 беспрацоўных гарадскіх урачоў у дзяржслужбе занятасці ёсць ажно 948 вакансій, на 73 медсястры — 1046; на вёсцы адзначаецца патрэба ў 44 урачах і 79 медыцынскіх сёстрах пры 2 і 17 беспрацоўных адпаведна”.

**— Ці даўно асабіста вам даводзілася звяртацца да медыкаў, і ці задаволены вы якасцю медыцынскага абслугоўвання?**

— Шчыра кажучы, апошні раз я звяртаўся да ўрачоў, калі праходзіў медкамісію для пераздачы на вадзіцельскае пасведчанне, гэта было год 10 таму. Хіба што стаматолага наведваю рэгулярна. Балазе, на платнай аснове хапае добрых спецыялістаў. А вось жонка мая, на жаль, вымушана звяртацца ў медустановы часта, і мушу заўважыць, што і ўзровень абслугоўвання, і абсталяванне ў нас вельмі якасныя. Іншая справа, што саміх урачоў не хапае, але на тых, хто застаўся ў галіне, грэх скардзіцца. І ўсё ж, калі сітуацыя з аплатай іх працы не зменіцца, мы будзем назіраць пастаянны адток кадраў. Думаю, усім зразумела, што рабіць. Не павінен урач атрымліваць менш, чым АМАПавец!



**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

# ЯК З'ЯЎЛЯЮЦЦА "ЕДАКІ НА ХАДУ"

Зусім нядаўна ў адной з буйных магілёўскіх крам ахоўнікі злавілі маладога чалавека, які на хаду еў неаплачаную булачку і запіваў яе такім жа неаплачаным сокам. Як стала вядома "Тут і цяпер", такіх выпадкаў апошнім часам стала значна больш.

## НЕ РАЗУМЕЮЦЬ "СКЛАДУ ЗЛАЧЫНСТВА"

Аб тым, чаму гэты галаўны боль стаў ледзь ці непастаянным для многіх пунктаў гандлю, расказаў нашаму выданню знаёмы ахоўнік супер-маркета (былы міліцыянт):

— У нас крадуць з-за беднасці і ледзь ці не з упэўнасцю ў тым, што для вялікай крамы дробная страта — гэта ніякі не ўрон. Хто трапляе ў поле нашага зроку? Найперш беспрацоўныя, алкаголікі.

З пачаткам фінансавага крызісу, вясной мінулага года, з'явілася яшчэ адна катэгорыя крамных злодзеяў дробнага калібру — гэта так званыя "едакі на хаду". Яны прыходзяць у супермаркеты падсілкавацца: гуляючы па краме, хуценька неўпрыкмет з'ядаюць што-небудзь. Звычайна гэта студэнты — як вядома, заўсёды галодная катэгорыя грамадзян, школьнікі і зрэдку пенсіянеры. Школьнікі часцей за ўсё проста не разумеюць "складу злачынства" (тут школе і бацькам ёсць чым заняцца), а вось студэнты і людзі сталага ўзросту робяць такое ад бязвыхаднасці. Ну і што рабіць? Ходзіць паціху ў крамы хаця б крыху пад'есці, раз у тры-чатыры дні.

## КАМПЕНСУЙ УРОН І БЫВАЙ!

Свае нястачы крамы пакрываюць за кошт пабораў з усіх сваіх супрацоўнікаў. Уласнікаў крам часта не цікавіць, па чыёй віне атрымалася нястача. Практычна кожны месяц з заробку нашага ахоўніка вылічваюць ад 60 тысяч да 100 тысяч рублёў.

Бывае, што злодзея зловяць у краме, але на яго ўсю нястачу па краме не перакладзеш — ён будзе адказваць толькі за тое, што знайшлі пры ім. А таму адміністрацыя гандлёвай установы імкнецца разабрацца са злодзеем сама, на месцы, мінуючы адпаведныя праваахоўныя структуры. Як кажуць, сабе даражэй — пратаколы, дазнанні, сведкі… Для рэпутацыі крамы мітусня і пагалоска не лепшыя памагатыя. Забралі ў затрыманага, запалохаўшы і прыціснуўшы яго ў далёкім ад гандлёвай залы пакойчыку, што змаглі — і добра. Тым больш што і па заканадаўстве так: кампенсуй урон і бывай!

## СОРАМНА, АЛЕ…

Студэнт-чацвёртакурснік Мікалай П.:

— Так мне сорамна, калі час ад часу "аб'ядаю" падчас "экскурсій" дзве блізкія да мяне прадуктовыя крамы. Што ем? Плаўленыя сыркі, коржыкі, паштэты ў маленькіх такіх бляшанках, якія лёгка адкрываюцца. Гэтак жа робяць два мае знаёмыя студэнты. Падпрацоўваць не атрымліваецца пакуль што. Кошт на вучобу зноў істотна паднялі".

## ЗЛОДЗЕІ ЁСЦЬ ЗЛОДЗЕІ

Вось як каментуе гэтую сацыяльную з'яву эканаміст **Пётр Мігурскі**:



*Выносілі, выносяць і будуць выносіць?*

— Тых, хто займаўся дробным крадзяжом у савецкія часы, называлі "несунамі". Тады прычынай быў татальны дэфіцыт і нізкія заробкі насельніцтва. Пэўным маральным прыкрыццём гэтай з'явы была і дзяржаўная ідэалогія, якую спрытныя гумарысты і шырокія масы працоўных трапна перавялі ў формулу "ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё".

Як і многае іншае, "несуны" паспяхова перакачавалі з савецкага мінулага ў беларускую сучаснасць. Але адразу хачу падкрэсліць, што ў якія б формулы гэтая з'ява не расквечвалася, злодзеі ёсць злодзеі.

У горадзе — адно, тут больш крадуць, так бы мовіць, гатовую прадукцыю. На вёсцы людзі цікавяцца збожжам, камбікармамі, бульбай, саляркай, запчасткамі для тэхнікі, будаўнічымі матэрыяламі. Ад гэтага цярпяць дачныя пасяленні, дзе разам з цэглай і дошкамі крадуць і харчовыя прыпасы з дамоў, якія ўзімку пустуюць.

А вось у крамах на вёсцы крадуць мала і рэдка. Тут мараль ясная: пападзешся — не адмыешся. Гэта аднавяскоўцы будуць памятаць, мо і некалькі пакаленняў…

**ЯН ШЫШКА, ВІКТАР ВОЙТ**

# "ДРАМАТЫЧНАЕ" 8 САКАВІКА

Нягледзячы на тое, што 8 сакавіка нехта лічыць самым крывадушным святам, многія жанчыны ўсё роўна чакаюць у гэты дзень увагі, прыемных слоў і падарункаў.

## ЗВЫЧАЙНЫХ КВЕТАК НЕ БЫВАЕ

**Так лічыць вядомы беларускі паэт Уладзімір Някляеў.**

"Я вельмі актыўна і сур'ёзна рыхтуюся да 8 сакавіка, таму што гэта самы драматычны дзень у жыцці любога мужчыны, — з усмешкай гаворыць Някляеў. — Тут можа быць маса праколаў, прычым, здавалася б, на пустым месцы: не той падарунак, не ў той час, не тая інтанацыя, не той позірк… Таму я трэніруюся перад люстэркам — адпрацоўваю міміку, рухі, позы, каб у жаночы дзень нічога не пераблытаць.

Падарункі сваім жанчынам я ўжо набыў, цяпер буду думаць, каму і што дарыць. Нешта тут набываў, а нешта з-за мяжы прывозіў з розных паездак — усялякія маленькія прыгожанькія рэчы, каб яны, што называецца, ласцілі і грэлі жаночы позірк".

Між іншым, Уладзімір Някляеў не лічыць, што кветкі — самы звычайны і просты падарунак на Міжнародны жаночы дзень.

"Звычайных кветак не бывае, — перакананы паэт. — Ну а да кветак абавязкова прыдумляю нешта яшчэ — хаця б на паштоўцы некалькі радочкаў. Мне ў гэтым сэнсе прасцей, чым тым мужчынам, якія не складаюць вершы...".

## ПАЛІТЫЧНАЕ І САВЕЦКАЕ СВЯТА

**Так называе 8 сакавіка заслужаны артыст Беларусі Віктар Скарабагатаў.**

"Я яшчэ ніяк не рыхтаваўся да гэтага дня — працую, — гаворыць Віктар Іванавіч. — Жанчын, якіх сустракаю, віншую з надыходзячым святам.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ДОМРАЧАВА: ДАГНАЦЬ ПЕРАМОГУ

**Спартовы мір другі раз за апошнія пяць тыдняў захапляецца перамогай беларускай спартоўкай.**

## НАШЫ КАРАЛЕВЫ

У канцы студзеня Вікторыя Азаранка ўпершыню ў гісторыі беларускага тэніса выйграла турнір "Вялікага шалома" — Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі ў адзінкавым разрадзе і адначасова стала першай ракеткай свету. А у мінулую суботу ў германскім Рупольдзінгу іншая наша суайчынніца Дар'я Домрачава ўпершыню для нас перамагла на чэмпіянаце свету па біятлоне. І Даша, і Віка сталі каралевамі ў найпапулярных выглядах спорту, якія традыцыйна збіраюць велізарныя гледачовыя масы і шматмільённыя тэлеаўдыторыі.

Цяперашні чэмпіянат Домрачава пачала ў рангу другой біятланісткі планеты. Увогуле, згодна заліку Кубка свету, гонкі якога доўжацца чатыры месяцы, беларуска займае другое месца пасля немкі Магдалены Нойнер.

Ужо на першым этапе праграмы — змешанай эстафеце -- Домрачава паказала лепшы час на жаночых этапах, а беларускі квартэт заняў 6-е месца.

Затым была спрынтарская гонка на 7,5 км.

Даша яе "зрабіла" проста выдатна, патрапіўшы на двух стрэльбішчах ва ўсе 10 мішэняў. Але абсалютна трапна страляла і Нойнер. Усё вырашыла хуткастрэльнасць Магдалены, якая ў выніку выйграла ў Дар'і 15 секунд. Срэбра стала трэцім медалем беларускі на сусветных форумах. У мінулым годзе ў Ханты-Мансійску Домрачава выйграла срэбра ў гонцы з масавым стартам і бронзу у эстафеце разам з Надзеяй Скардзіна, Надзеяй Пісаравай і Людмілай Калінчык.

> "Затое беларуска праявіла характар: адстралялася хутка і чыста! Да фінішу яе перавага над 11-кратнай чэмпіёнкай свету дасягнула 25 секунд!"




У суботняй гонцы пераследу біятланісткі стартавалі ў тым парадку, у якім завяршылі спрынт і з тым адрывам, які тады склаўся. Ужо да першай стральбы Домрачава амаль дагнала Нойнер. Абедзве стралялі трапна, але немка — хутчэй.

Затым гісторыя паўтарылася: Даша зноў прыйшла на стрэльбішча ўшчыльную за Магдаленай, але абедзве прамахнуліся па разе. Домрачава па-ранейшаму ўпарта пераследвала лідэра. На трэцяй мяжы беларуска прамахнулася і адправілася на штрафны круг, а немка ўсе кулі паслала ў мішэні.

Разрыў вырас да 33 секунд, і здавалася, што лёс гонкі вырашаны. Аднак Даша так не думала. Яе хуткасць была фантастычнай, і да заключнай стральбы яна адыграла каля 20 секунд. Нойнер, страляючы ў адзіноце, верагодна, вырашыла, што перамога ў кішэні. Страта канцэнтрацыі каштавала ёй двух промахаў.

Затое беларуска праявіла характар: адстралялася хутка і чыста! Да фінішу яе перавага над 11-кратнай чэмпіёнкай свету дасягнула 25 секунд!

## ВЫНІК — ЗОЛАТА І СРЭБРА ДОМРАЧАВАЙ

Больш іншых перамозе Дашы цешыўся яе трэнер Клаўс Зіберт. У маладосці ён сам быў класным біятланістам, чэмпіёнам свету. Апошнія чатыры гады Зіберт працуе з беларускімі страляючымі лыжніцамі. У тым, што Домрачава стала бронзавым прызёрам Алімпіяды-2010, яго найвялікшая заслуга. У апошні час Зиберт доўга хварэў. Дыягназ, які і ворагу не пажадаеш, — анкалогія. Ён перанёс аперацыю, лячыўся і зноў прыступіў да працы. Вынік — золата і срэбра Домрачавай.

**МІХАСЬ МОШЫН**

**ДАРЭЧЫ**

Нашай гераіні ўсяго 24 гады. Яна карэнная мінчанка. Калі ёй было чатыры года, бацькі пераехалі ў Нягань, мястэчка на мяжы Цюменскай вобласці і Ханты-Мансійскай нацыянальнай акругі Расіі. Маці Дашы стала галоўным архітэктарам горада. Дзяўчынка ўжо ў шэсць гадоў стала займацца лыжнымі гонкамі. А у 13 пачала асвойваць біятлон. Неўзабаве стала лепшай у Расіі сярод дзяўчын, а затым і сярод юніёрак. Але на вакацыі прыязджала дадому ў родны Мінск. Сталічныя трэнеры прапанавалі ёй выступаць за каманду роднай Беларусі, і Даша без ваганняў пагадзілася.

На чэмпіянаце ў Рупольдзінгу мы ўбачым чэмпіёнку свету Дар'ю Домрачаву яшчэ ў трох гонках. І хай яна ляціць да перамогі!

# З 67-ГА НА 69-Ы РАДОК У РЭЙТЫНГУ ФІФА

**Міжнародная федэрацыя футбола (ФІФА) 7 сакавіка апублікавала чарговы рэйтынг нацыянальных зборных. Беларуская каманда з моманту выхаду папярэдняга рэйтынгу (15 лютага) правяла адзін матч, паведамляе БелаПАН.**

Беларусы згулялі ўнічыю ў таварыскай сустрэчы з малдаванамі (0:0). У новым рэйтынгу зборная Беларусі апусцілася на дзве пазіцыі — з 67-га на 69-ы радок (490 ачкоў супраць 495 у лютым).

Найбліжэйшыя спарынгі падапечныя Георгія Кандрацьева правядуць у пачатку лета дома — 5 чэрвеня супраць зборнай Азербайджана і 8 чэрвеня супраць каманды Літвы.

Сапернікі беларускай зборнай па адборачным турніры чэмпіянату свету 2014 года займаюць наступныя месцы:

Іспанія — 1-е (1.561 бал), Францыя — 16-е (938), Грузія — 74-е (462), Фінляндыя — 84-е (412).

У першую дзясятку сусветнага рэйтынгу (акрамя іспанцаў) уваходзяць каманды Галандыі (1.379), Германіі (1.332), Уругвая (1.289), Бразіліі (1.157), Англіі (1.121), Партугаліі (1.106), Аргенціны (1.102), Італіі (1.062) і Харватыі (1.049).

Усяго ў сакавіцкі рэйтынг увайшлі 208 зборных. Наступная версія спіса будзе апублікавана 11 красавіка.

**АЛЯКСАНДР ВАНКОВІЧ**

# "ДРАМАТЫЧНАЕ" 8 САКАВІКА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 6*

Калі б быў жанаты, то зрабіў бы падарунак жонцы. Каханай жанчыне абавязкова знайду што падарыць, праўда, пра гэта буду думаць заўтра. Ведаю, што некаторыя мужчыны за два тыдні падарункі выбіраюць, але я не як усе...

А калі сур'ёзна, то да гэтага жаночага свята стаўлюся цалкам несур'ёзна. Мяне наогул замілоўваюць такія даты, як 8 сакавіка, 7 лістапада… Вось я лічу, што Дзень маці — гэта цудоўнае свята. А што такое 8 Сакавіка, як гэта разумець? Гэта ж тыповае палітычнае, савецкае свята! Я з дзяцінства памятаю, што мама, сястра і іншыя сваячкі з лёгкай іроніяй ставіліся да гэтага свята. Але ў нашым доме сталы на 8 Сакавіка ніколі не накрывалі — віншавалі і ўсё на гэтым.

На працы, як вы разумееце, у такія дні заўсёды шмат працы, ва ўсякім выпадку, у артыстаў. Праўда, сёлета 8 сакавіка ў нас няма канцэрта — мы зрабілі яго напярэдадні. Дарэчы, вельмі прыгожы канцэрт атрымаўся — з добрай музыкай і добрымі артыстамі".




*Проста не забудзьце павіншаваць сваіх жанчын са святам!*

## КАНЦЭРТ ЯК ПАДАРУНАК

**Вядомы беларускі бард Віктар Шалкевіч 8 сакавіка павіншуе жанчын сваім канцэртам.**

— Да 8 Сакавіка падрыхтоўкі не вяду. У мяне два канцэрты якраз у Міжнародны жаночы дзень, таму я рыхтуюся да іх, — распавядае Віктар. — Між іншым прыемна, што ўсе білеты на канцэрты былі прададзены яшчэ за тыдзень да іх. А што тычыцца падарункаў жонцы, то мы не святкуем такія святы. Гэта банальна. Трэба да кабеты нармальна ставіцца ўвесь год, а не толькі 8 сакавіка. І тады ўсё будзе нармальна.

— І што, нават кветкі не дорыце жонцы на 8 Сакавіка?

— Ну дару, дару...

## НЯМА СВЯТОЧНАГА НАСТРОЮ

**Пра адсутнасць узнёслых эмоцый гаворыць прадстаўніца Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Валянціна Болбат.**

"Святочнага настрою мала, таму што вакол столькі нявырашаных праблем, — гаворыць Валянціна Васільеўна. — Падарункаў чакаю ад блізкіх людзей, напрыклад ад мужа. Ведаю, што ён абавязкова што-небудзь незвычайнае прыдумае.

А наогул стаўленне да свят у апошнія гады крыху змянілася. Стрыманы настрой навеяны, напэўна, агульнай атмасферай у краіне. Калі ёсць нейкія асабістыя праблемы, іх можна вырашыць, і усё на гэтым, а калі дапамагаеш вырашаць чужыя праблемы і бачыш, што ім няма канца і краю, і ўжо не ведаеш, як дапамагчы людзям, настрой сам па сабе знікае. І не схіляе да свят...".

## ПРЫЕМНЫЯ СЛОВЫ ЗАЎСЁДЫ ПРЫЕМНЫЯ

**Так лічыць кіраўніца юрыдычнай службы Беларускай канфедэрацыі прафсаюзаў экс-старшыня жаночай партыі "Надзея" Алена Яськова.**

"Я стаўлюся да гэтага свята нават крыху індыферэнтна, бо ў савецкія часы яно было вельмі заарганізавана, — гаворыць Алена Яськова. — Але ўсё роўна чакаю ўвагі і прыемных слоў ад блізкіх мужчын. У апошнія дні размаўляла на тэму 8 Сакавіка з некаторымі мужчынамі і пачула такое меркаванне: маўляў, гэта самае крывадушнае свята, якое вымушае клапаціцца, думаць аб падарунках, асабліва калі гаворка ідзе пра калектывы, дзе шмат жанчын.

Наогул жа, заўсёды прыемна пачуць прыемныя словы. Напрыклад, я ўчора пачула цёплыя словы ад чалавека, ад якога наогул іх не чакала. Гэта надзвычай прыемна! І я спадзяюся, што доля шчырасці ў мужчынскіх віншаваннях напярэдадні 8 Сакавіка ўсе ж прысутнічае...

Што тычыцца падарункаў, то самы смешны, які мы ўспамінаем з сынамі, — экалюдзік. Гэта такая фігурка ў выглядзе сэрца, якую падарыў мне муж: калі яе паліваеш, расце траўка. Аднак калі з гэтага сэрца павылазіла рэдкая траўка, быў такі жудасны выгляд... Потым муж сам ціхенька і выкінуў гэтага экалюдзіка...

**МАРЫНА МІТ**

**ДАРЭЧЫ**

## КАНЦЭРТ «НЕЙРА ДЗЮБЕЛЮ» САРВАНЫ

Дырэкцыя клубу «Салтайм» распаўсюдзіла афіцыйнае паведамленне, што канцэрт гурту Neuro Dubel, запланаваны на 8 сакавіка, "не адбудзецца".

Прычыну адмены канцэрту клуб не тлумачыў: «Шкадуем пра тое, што даводзіцца пра гэта паведамляць, але ні на што паўплываць не можам. Прыносім свае прабачэнні».

Правядзенне канцэрту было ўзгоднена з упраўленнем культуры Мінгарвыканкама.

Напярэдадні лідэр гурту Аляксандр Кулінковіч казаў, што гатовы паверыць, што забароны існуюць выключна ў галовах уладальнікаў пляцовак.

Папярэднія канцэрты Neuro Dubel у «Салтайме» праходзілі без перашкод.



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 8.03.12
Тыраж 299 экзэмпляраў